


## Ашалелыя з раскошы

*Міні-фельетон*

Вялікае шчасце для кожнага з нас знайсці працу, якая будзе прыносіць толькі пазітыўныя эмоцыі. Усе мараць прачынацца кожную раніцу з выдатным настроем і ляцець на рабочае месца, як на крылах, а не плесціся, як на катаргу. Нездарма кажуць: выберыце сабе працу па душы, і вам не давядзецца працаваць ніводнага дня ў сваім жыцці.

Але чалавек – істота слабая. Калі ў яго з'яўляецца манета, ён адразу ж пачынае прагнуць другую, потым трэцюю, чацвёртую, і так да бясконцасці. Ёсць людзі, якія жывуць па прынцыпе «Бяры ад жыцця ўсё!» І калі лёс дае ім добрую працу, яны робяць усё магчымае, каб па максімуму выцягнуць з яе ўсе сокі.

Вось вам прыклад. Зусім нядаўна Камітэт дзяржкантролю выявіў факты вельмі вольнага распараджэння дзяржаўнымі сродкамі сярод кіраўнікоў прадпрыемстваў ЖКГ. Яны выкарыстоўвалі выдзеленыя грошы для паляпшэння ўмоў сваёй працы. «І што тут незвычайнага, гэта ж патрэбна!» – скажаце вы. Але змеміце думку, калі даведаецеся, якім чынам некалькі кіраўнікоў з Мінскай вобласці марнавалі дзяржаўныя сродкі. Каб катацца па справах у камфорце, яны набылі далёка не танныя службовыя аўтамабілі 2012 года выпуску – Volvo XC90 коштам 55 тысяч долараў і Mitsubishi Outlander за 33 тысячы долараў.

Пакуль адны дабіраюцца на працу ў грамадскім транспарце ці ўвогуле пешшу, іншыя зусім з раскошы шалеюць. Ці ёсць тут справядлівасць?

Вось і намеснік начальніка ўпраўлення кантролю будаўніцтва, ЖКГ і сувязі Камітэта дзяржкантролю Аляксандр Якімаў выказаў меркаванне, што кіраўнікам прадпрыемстваў ЖКГ неабходна паменшыць уласныя выдаткі. Па яго падліках, па абласцях іх можна скараціць ажно на 11%.

Мы згодныя з такім вывадам. Можа, тады начальнікі пачнуць шукаць новыя прыемнасці ў сваёй працы? Больш танныя і карысныя для простых грамадзян...

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**




Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ.




Малюнак Аляксандра ШМІДТА.



# «У пошуках неверагоднага»

*Фельетон*

Шкада, што няма ў нас такой тэлеперадачы, якая б расказвала пра розныя фантастычныя выпадкі ў Беларусі. Колькі цікавых гісторый можна было б у ёй паказаць! Але ўсё ж такі давайце ўявім, што такая праграма існуе, і журналіст разам з аператарам прыехаў здымаць сюжэт па рэальным здарэнні, якое адбылося ў ААТ «Краснаслабодскае»...

– Вітаю вас, паважаныя тэлегледачы. Мяне завуць Уладзімір Крук, і сёння спецыяльна для праграмы «У пошуках неверагоднага» я паспрабую разабрацца ў дзіўнай гісторыі, якая нядаўна адбылася ў адным з прадпрыемстваў Кастрычніцкага раёна і дагэтуль наводзіць жах на ўсіх мясцовых жыхароў, – карэспандэнт спыніўся каля ўвахода на ААТ. – На гэтым прадпрыемстве знікае буйная рагатая жывёла, і ніхто не можа адказаць, куды, як і чаму такое здараецца. Зараз мы паспрабуем даведацца пра акалічнасці ў работнікаў, якія асабіста сутыкнуліся з гэтай праблемай.

Уладзімір Крук зайшоў на тэрыторыю прадпрыемства і наблізіўся да мужчыны, які падмятаў сцежкі:

– Добры дзень, падкажыце, калі ласка, ці ведаеце вы штосьці пра знікненне ў вашай гаспадарцы кароў?

Мужчына здзіўлена паглядзеў на журналіста і ціхенька прамовіў:

– Мне не дазволена пра гэта гаварыць, лепш падыдзіце да кіраўніцтва. Я чалавек маленькі, звычайны дворнік. У мяне нічога не знікала, два вядры, тры венікі і шуфель – усё ў кладоўцы захоўваецца. Магу паказаць.

– Не, нас больш жывёлы цікавяць, – усміхнуўся журналіст.

– Тады ідзіце вунь да таго дома з чырвонай цэглы, там і пытайцеся. І не перашкаджайце мне працаваць! – гучна сказаў мужчына, потым азірнуўся па баках і амаль шэптам прамовіў: – Да вас сюды ўжо прыязджалі людзі. Таксама хадзілі, пыталіся, здымалі на камеру і нешта запісвалі ў сшыткі. Сур'ёзныя госці, адразу бачна, з нейкай вялікай установы.

Вочы Уладзіміра ўміг загарэліся:

– І што яны тут знайшлі? Раскажыце больш падрабязна, абяцаю: ваш твар мы закрыем чорным квадратам, а голас зменім.

– Не, не магу сказаць, мала чаго ведаю, а хлусіць не буду, – прамовіў дворнік і хуценька пайшоў прэч.

– Справа становіцца больш захапляльнай, давайце паспрабуем распытаць каго-небудзь з работнікаў гаспадаркі, – таямніча сказаў Крук і рушыў у бок чырвонага дома.

Каля трактара завіхаўся яшчэ адзін работнік ААТ.

– Добры дзень, што вы можаце паведаміць наконт знікнення ў гэтай гаспадарцы буйной рагатай жывёлы? – пайшоў у наступ Крук.

Мужчына спачатку аслупянеў, а потым прамовіў:

– Ну, не далічыліся нядаўна амаль 600 кароў, гавораць нават, што сума ўрону склала больш за адзін мільярд рублёў. А як і чаму гэта здарылася, няма часу распавядаць, мяне праца чакае, – і ўскочыў у кабіну трактара.

Уладзімір пацiснуў плячыма і рушыў да дома, дзе знаходзілася кіраўніцтва ААТ, тузануў за ручку, але дзверы былі зачыненыя.

– Не разумею, чаму тут нікога няма? – задаў пытанне аператару.

І якраз у гэты момант з-за вугла выйшла жанчына:

– Навошта грукаеце? У нас абед, ды і кіраўніцтва адсутнічае. Што вы тут шукаеце? Ці ёсць у вас дазвол на здымкі?

– Добры дзень, паважаная, – з самай шчырай усмешкай павітаўся Крук. – Мы прадстаўляем тэлеперадачу «У пошуках неверагоднага», здымаем сюжэт пра нядаўняе здарэнне, якое адбылося ў вашай гаспадарцы. Можа, раскажаце? Хто вы і як вас завуць?

– Я Ганна Міхайлаўна, новая сакратарка. Усё ездзяць ды ездзяць, хіба тут мёдам намазана? Вы ўжо трэція, хто шукае ў нас нешта звышнатуральнае. І іншапланецян спрабавалі знайсці, і экстрасэнсаў прывозілі, і нават мужчына з металашукальнікам прыязджаў.

– Ух ты! І атрымалася штосьці выявіць? – усхвалявана запытаў журналіст.

– Зразумела, не. Во час пайшоў, усе шукаюць дзівы, а каб рэальнасці ў вочы паглядзець, дык не! Ох, пайшлі, мае фантасты, раскажу, што і як было. Расчаруецеся, але ж хоць у марах лунаць не будзеце, – уздыхнула Ганна Міхайлаўна, адчыніла дзверы, правяла Крука і аператара ў невялікі пакойчык і заварыла свежай гарбаты.

– Навошта вы сюды прыехалі? – запытала жанчына.

– Як навошта? Па неверагодную гісторыю! – горда адказаў Уладзімір.

Ганна засмяялася:

– Хлусіць не буду. Усё адбылося занадта празаічна. Прыехала да нас нядаўна праверка з Камітэта дзяржкантролю. Выявілі недастачу буйной рагатай жывёлы. Дарэчы, па ўсіх паперах яна была, а на справе – не. Больш за тое, кіраўніцтва адправіла няправільныя звесткі ў аддзел статыстыкі наконт колькасці нарыхтаваных кармоў – 59702 тоны сіласу і 19862 тоны сенажу.

За гэта спецыялістам ААТ неабгрунтавана была выплачана заработная плата і прэміі ў агульнай суме 120 мільёнаў рублёў.

— І ўсё? А можа, кіраўніцтва было пад уплывам нейкага мясцовага палтэргейста і з-за гэтага пайшло на службовае злачынства? — з надзеяй у голасе запытаў карэспандэнт.

— Не, хлопцы, — усміхнулася сакратарка, — гэта звычайная чалавечая прага грошай. Але ёсць адна дэталь, якая можа падацца вам цікавай...

— Што за яна? — амаль у адзін голас спыталі Крук і аператар.

— Яшчэ праверка выявіла нелегальны жывёльны магільнік, які парушаў усе магчымая ветэрынарна-санітарныя нормы і правілы. Можа, там у вас атрымаецца нешта пачуць, напрыклад, пра якую-небудзь карову-зомбі, — па-змоўніцку адказала Ганна Міхайлаўна.

— Ух ты! Гэта ж такі сюжэт атрымаецца! Пакажыце, куды нам ісці і ў каго даведацца пра падрабязнасці, — занерваваўся журналіст.

— Ды кіруйцеся ў вёску, там і спытаеце. Мяркую, што вам пашчасціць знайсці чалавека, які валодае цікавымі звесткамі, — ледзь стрымліваючы смех, паказвала дарогу сакратарка.

Калі журналіст і аператар амаль выбеглі з тэрыторыі гаспадаркі, Ганна Міхайлаўна ўздыхнула і прамовіла:

— Гэтым падавай нешта звышнатуральнае, а ў нас тут нічога цікавага, хіба што толькі прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасці шасцёра службовых асоб. Хто ведае, чым уся справа скончыцца, следства ж працягваецца. Журналістам жа экстрасэнсаў падавай ды кароў-зомбі...

Яна праводзіла позіркам сваіх нечаканых гасцей і пайшла выконваць звычайную і зусім не фантастычную працу.

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**

## Сардэчна запрашаем!

*Іранеска*

Новая, суперсучасная крама «ГіперПрофі» прапануе вам, шаноўныя пакупнікі, шырокі асартымент прагрэсіўных тавараў ад знакамітых у Еўропе фірм! Мы даўно палюбіліся беларускім спажыўцам і маем шмат пераваг перад астатнімі крамамі горада. У «ГіперПрофі» працуе выключна высокакваліфікаваны персанал, зрабіць заказ у нас можна не толькі ўжывую, але і па тэлефоне альбо праз электронны каталог, вы можаце выкарыстаць наяўны і безнаяўны спосаб аплаты тавараў. Мы прымяняем дысконтную сістэму скідак, робім падарункі кожнаму пакупніку. Першай тысячы — дысконтная карта бясплатна!

Сардэчна запрашаем у наша гандлёвае прадпрыемства!

P.S. Тавар у краму яшчэ не завезлі, калі завязём — невядома.

Адміністрацыя.

**Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*




Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




Гандляр-перакупшчык з Вілейкі
Даўно ўжо не лічыць капейкі.
Пры чарцы ды скварцы
І на іншамарцы –
Ніякіх клапот у сямейкі.




* * *

Жывуць на ўзбярэжжы Асвеі
Дзяўчаты – чароўныя феі.
Як гляне якая –
Нуда уцякае.
Квітнеюць, нібыта лілеі.



* * *

Паэт-летуценнік з Міёраў
Граматыку ледзьве агораў,
Ды строфы-аладкі
Пячэ без аглядкі
І нават рыхтуе збор твораў!




* * *

Хлапец з пагранічнага Брэста
У моднай кашулі пярэстай
Ад раніцы шызай
Ў чарзе стаіць з візай –
Чакае паненка-нявеста.



* * *

Шкаляр-выпускнік з Рагачова
Здаў тэсты свае паспяхова.
Цяпер для нявесты
Купляе сам тэсты –
Спазнаў юнак новы сэнс слова.

* * *

Турысты заехалі ў Быхаў,
І кожны з іх носам зачмыхаў:
Не замак – руіны,
Халупы-хаціны...
Хапіла самотных уздыхаў.

**Нічыпар ШЭРАНЬКІ,**
*г. Мінск.*




* * *

Знаёмая з Мар'інай Горкі
Сказала, што лёс мае горкі,
Бо муж яе, Янка,
Не хоча без шклянкі
Бур'ян абкасіць на падворку.






Малюнак Алега ГУЦОЛА.




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.




* * *

Аднойчы з Дзяржынска кабета
Таемна паехала летам
З сяброўкай у Сочы,
Ды толькі не хоча,
Каб муж яе ведаў пра гэта.



* * *

У вёсцы адной пад Уздою
Палетак зарос лебядою.
Уранку брыгада
Прывезла «Тарнада»,
Каб справіцца з гэтай бядою.



* * *

У Чэрвені ля кожнай хаты
Гарачыя спрэчкі-дэбаты:
Хто мог гэтым летам
З жалезным лафетам
Сцягнуць непрыкметна гармату.

**Уладзімір ЦАНУНІН,**
*г. Вілейка.*



* * *

Ў Мазыр аўцюковец прыехаў,
Прывёз торбу спелых арэхаў.
Ішоў гандаль жвава:
Пад жарты-забавы
Тавар раскупілі са смехам.






* * *

Па Брэсце артысты хадзілі
Ды малпу ў сукенцы вадзілі.
Паказваць народу
Сучасную моду
Жывёліну доўга вучылі.




* * *

У Гомелі летам ля Сожа
Утульна і вельмі прыгожа.
Там людзі гуляюць,
На лаўках чытаюць
Часопіс пад назваю «Вожык».

**Раіса ВАСІЛЬЕВА,**
*г. Гомель.*




Малюнак Алега ПАПОВА.



Малюнак Аляксандра ШМІДТА.

## Са светлым сумам, з добраю ўсмешкай…



На 85-м годзе жыцця 29 сакавіка 2016 года не стала народнага паэта Беларусі Ніла ГІЛЕВІЧА – чалавека шматграннага таленту, пісьменніка, пяру якога былі падуладны самыя розныя жанры, стылі, сродкі, прыёмы, формы. Не абмінуў сваёй увагай творца і сатырычную ніву: у розныя гады ў беларускіх выдавецтвах пабачылі свет яго зборнікі сатыры і гумару «Званковы валет» (1961), «Да новых венікаў» (1963), «Ці грэх, ці два» (1970), «Як я вучыўся жыць» (1974), «Русалка на Нарачы» (1974), «Кантора» (1989), «Дыялог на хаду» (1990). А ў 1981 годзе ў Бібліятэцы часопіса «Вожык» выйшла невялікая анталогія балгарскай гумарыстычнай і сатырычнай паэзіі «Перазараджаны набоем» у перакладзе паэта.

Ніл Сымонавіч Гілевіч нарадзіўся 30 верасня 1931 года ў вёсцы Слабада на Лагойшчыне. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна, аспірантуру пры ім. Многія нашы суайчыннікі ўзгадваюць Ніла Сымонавіча не толькі як выдатнага мастака слова, але і як харызматычнага таленавітага выкладчыка: доўгі час ён быў супрацоўнікам кафедры беларускай літаратуры гэтага ўніверсітэта. Нездарма паэту-навукоўцу ў 1980 годзе было прысвоена званне заслужанага дзеяча навукі БССР.

У кнігах гумару і сатыры пісьменніка прадстаўлены розныя па жанрах творы: вершы, казкі і байкі, вершаваныя апавяданні і фельетоны, эпіграмы, замовы, жарты і гумарэскі, пародыі. Адных эпіграм, як аднойчы прызнаўся Н. Гілевіч, у яго набярэцца на добры том. Адметна, што выразны гумарыстычны складнік характэрны для многіх твораў пісьменніка, у тым ліку і для вядомага рамана ў вершах «Родныя дзеці» (1985). У адным з адступленняў – іранічным – паэт дасціпна распавядае пра прыдзірлівых крытыкаў, якія патрабуюць ад літаратараў наватарскіх прыёмаў, а на самай справе прымушаюць надзяваць «штаны праз галаву». «Ну, што ж: вялікі свет парнаскі! // А мне й на гэты раз, браткі, // Слугуе ямб – тутэйшы, наскі, // Рухомы, гібкі, трапяткі», – адказвае таму ўяўнаму крытыку Н. Гілевіч. І мы ў чарговы раз усміхаемся шчыраму, трапнаму, добраму, простаму і ў той жа час глыбокаму слову паэта.

Мы будзем зноў і зноў перачытваць легендарны «Сказ пра Лысую гару», пазнаючы за выдуманым Францішкам Ведзьмаком-Лысагорскім Ніла Сымонавіча. Будзем зацягваць сапраўды народную песню пра бярозы ў цёплых сяброўскіх кампаніях. Будзем узгадваць пра Паэта – са светлым сумам, з добраю ўсмешкай…




## Дасціпная сутнасць творчай асобы

*Літаратурная спадчына лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Барыса Іванавіча САЧАНКІ (1936 – 1995) даволі багатая. Гэта найперш трылогія «Вялікі Лес», а таксама шматлікія аповесці, апавяданні, эсэ. Нарадзіўся празаік у вёсцы Вялікі Бор на Гомельшчыне. Падчас вучобы на філфаку БДУ імя У. І. Леніна (з 1958 г.) пачаў працаваць у часопісе «Вожык». Разам з Р. Барадуліным і Я. Сіпаковым змяшчаў на старонках выдання пад псеўданімам Сібарсач вострыя і надзённыя крытычныя нататкі, артыкулы, гумарэскі, сатырычныя замалёўкі.*

*Шырокаму чытачу пісьменнік вядомы найперш творамі на тэму яго малой радзімы, а таксама прысвечанымі Вялікай Айчыннай вайне. Аднак прыродны дар гумарыста праяўляўся нават у «сур'ёзнай» прозе. Дасціпная сутнасць творчай асобы вылілася ў два зборнікі: у 1966 годзе ў Бібліятэцы «Вожыка» выходзіць кніга гумару «Вол-фігурыст», пазней – «Халасцяк» (1969). Прапануем усміхнуцца разам з класікам, якому сёлета споўнілася б 80 гадоў.*




Сяброўскі шарж Канстанціна КУКСО, 1989 г.

**Барыс САЧАНКА**




*Гумарэска*

Пасля таго, як закончыў універсітэт, я ўладкаваўся на працу ў часопіс сатыры і гумару. Дзязька Сцяпан, мой далёкі сваяк, у якога я жыў два гады на кватэры, пакуль, нарэшце, не дазволілі мне пасяліцца ў студэнцкім інтэрнаце, даведаўшыся пра гэта, доўга-доўга ціснуў мне руку, гаварыў, што ён заўсёды верыў у маю шчаслівую планіду і мой талент, і пры гэтым неяк загадкава ўсміхаўся. Сэнс гэтай загадкавай усмешкі я зразумеў тыдні праз два, калі дзядзька забег, як ён казаў, «на хвіліначку» да мяне ў рэдакцыю. Пад пахаю ў яго была блакітная папачка.

— Вось, — шапнуў ён мне амаль што на вуха і паклаў на стол папачку. — Будзе вольны час, кінь вокам... Калі што не так — памажы. Мы ж, як-ніяк, сваякі... Дый так... Гара з гарою не сходзяцца, а чалавек з чалавекам... Кхе-кхе...

Дзязька зачыніў за сабою дзверы, а я... Я, вядома, адразу ж узяўся развязваць блакітную папачку. У папачцы — божа мой, я аж не паверыў! — былі гумарэскі, байкі, эпіграмы... Не адкладваючы на пасля, я пачаў чытаць. І схапіўся за галаву. І гумарэскі, і байкі, і эпіграмы былі... Ды што тут казаць — нічога не было — ні гумарэсак, ні баек, ні эпіграм... Была звычайная графаманская пісаніна. І я задумаўся — што рабіць? Гаварыць непрыемнасці чалавеку, які памог мне ў цяжкую хвіліну, сваяку, ды яшчэ старэйшаму па гадах, мне не хацелася. А таму я пахваліў гумарэскі, байкі, эпіграмы, сказаў, што ў дзядзькі безумоўна ёсць талент гумарыста і сатырыка і, калі ён не спалохаецца цяжкасцей і не пакіне пісаць, з яго будзе толк... А сам... Сам перайшоў на працу ў тоўсты літаратурна-мастацкі часопіс...

Праз месяц дзядзька Сцяпан знайшоў мяне і тут. Пад пахаю ў яго была такая ж блакітная папачка. Толькі гэты раз не тоненькая, а тоўстая. Ён зноў доўга-доўга ціснуў мне руку, гаварыў, што заўсёды верыў у маю шчаслівую планіду і мой талент. Пад канец размовы ён зноў паклаў на мой стол папачку.

— Вось, — шапнуў ён мне таксама на вуха. — Будзе вольны час, кінь вокам. Калі што не так — памажы. Мы ж, як-ніяк, сваякі... Дый так... Гара з гарою не сходзяцца, а чалавек з чалавекам... Кхе-кхе...

У папцы, калі я развязаў яе, было тры паэмы і раман. Я пачаў іх чытаць і зноў схапіўся за галаву. «Што рабіць?» Псаваць добрыя адносіны з дзядзькам Сцяпанам мне, як вам вядома, не хацелася. А таму я пахваліў яго паэмы, раман, паабяцаў у бліжэйшы час здаць іх у набор, а сам... Сам тым часам пачаў шукаць, куды б уцячы. Акурат вызвалілася месца кансультанта літчасткі ў адным тэатры, і я, не марудзячы ні дня, заняў яго.

Але не прайшло і паўгода, як дзядзька Сцяпан знайшоў мяне і ў тэатры. Гэты раз ён прынёс аж чатыры п’есы — дзве камедыі і дзве трагедыі. Ён зноў гэтак жа доўга-доўга ціснуў маю руку, гаварыў, што ён заўсёды верыў у маю шчаслівую планіду і мой талент, і зноў прасіў: «Калі што не так — памажы. Мы ж, як-ніяк, сваякі. Гара з гарою не сходзяцца, а чалавек з чалавекам...»

Я прачытаў камедыі, прачытаў трагедыі і зноў схапіўся рукамі за галаву. «Што рабіць?» — такога пытання ў мяне не было. Я ўжо ведаў, што рабіць. Пахваліў п’есы, а сам... сам перайшоў працаваць на кінастудыю...

Дзядзька Сцяпан, вядома, знайшоў мяне і там — прынёс папачку сцэнарыяў. Я нават не браўся іх чытаць — перабег на працу ў выдавецтва. Пасля выдавецтва я працаваў на радыё, на тэлестудыі, у часопісе для жанчын, у сельскагаспадарчым часопісе, у часопісе мод і г.д. І адусюль мне даводзілася ўцякаць, як толькі знаходзіў мяне дзядзька Сцяпан...

Цяпер я рамантую абутак на вуглу адной з вуліц горада. Дзядзька Сцяпан не заходзіць больш да мяне. Іншы раз мы сустракаемся з ім у аўтобусе ці тралейбусе. Моўчкі вітаемся кіўком галавы. І адразу ж адварочваемся. Неяк, калі я павітаўся з ім, як звычайна, адным кіўком галавы, я пачуў, як ён на пытанне суседа: «Хто гэта?» паказаў вачыма ў мой бок і грэбліва скрывіўся:

— Гэта?.. Гэта так, адзін... Жыў некалі ў мяне... Я і тады не верыў, што з яго што-небудзь выйдзе... Не памыліўся...

*«Вожык», № 22, 1967 г.*

## Адданы вожыкавец, добры чалавек

*Слаўны сын аршанскай зямлі, выдатны пісьменнік з адметным успрыманнем рэчаіснасці, таленавіты гумарыст, адданы вожыкавец, чалавек з нязменна добрымі вачыма і выключна шчырай усмешкай... Такім быў і такім застаецца ў памяці беларускі пісьменнік Павел Паўлавіч САКОВІЧ (1941–2014), які сёлета мог бы адсвяткаваць сваё 75-годдзе. Больш за 50 гадоў жыцця ён супрацоўнічаў з нашым часопісам, з іх больш за 10 з'яўляўся рэдактарам аддзела і членам рэдкалегіі. Да гэтага доўгі час займаў высокія пасады ў сферы культуры, быў узнагароджаны нагрудным знакам «За ўклад у развіццё культуры».*

*Павел Паўлавіч – аўтар дзесяці кніжак прозы, паэзіі, сатыры і гумару, твораў для дзяцей; суаўтар многіх зборнікаў, анталогій; лаўрэат літаратурных прэмій імя К. Крапівы (2001 г.) і імя В. Віткі (2010 г.), Рэспубліканскага літаратурнага конкурсу на лепшы твор (2007 г.).*

*Нашыя чытачы добра ведаюць пісьменніка як вопытнага майстра «вясёлага» цэха беларускай літаратуры. Эпіграграмы, гумарэскі, байкі, фельетоны, жарты, сатырычныя мініяцюры, прыпеўкі, афарызмы і нават эпітафіі – здаецца, ён выдатна засвоіў усе напрамкі гумарыстычнага жанру. Лёгкасць і дасціпнасць яго мастацкага слова абавязкова прыйдуцца вам даспадобы.*




Сяброўскі шарж
Аляксандра КАРШАКЕВІЧА, 2001 г.

**Павел САКОВІЧ**

## Не прадавайце дом бацькоў

Я заклінаю ўсіх сыноў:
Хай будуць цяжкасці любыя,
Не прадавайце дом бацькоў,
Вас не ўратуюць грошы тыя.
Яны дабра не прынясуць,
Ніколі не дадуць спакою,
Агнём вам рукі апякуць,
Нібы праказаю якою.
Не прадавайце родны дом,
Бо ён не крама пры дарозе.
Бацькоў успомніце дабром –
Іх след не сцерся на парозе.
Дзядоў і продкаў вашых дух
Прыжыўся назаўсёды ў хаце.
Яшчэ агеньчык не патух,
Што запаліла ў печы маці.
Не прадавайце дом бацькоў,
Бо без яго не пражывеце:
Ён будзе сніцца зноў і зноў,
Пакуль вы ёсць на гэтым свеце...




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.




Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ.



Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.



Малюнак Алега ПАПОВА.

**Міхась МІРАНОВІЧ**




## Сярод аслоў

Больш не кідайце марна
Крыўдных слоў,
Як гэта адбывалася
Спрадвеку.
А што,
Як найдурнейшага з аслоў
Звяры за вочы
Клічуць чалавекам?..



## Нестандартнае рашэнне

– Глядзі,
Афіша вунь вісіць:
Ён можа
Локаць адкусіць!
– У чым тут дзіва,
Дружа мой?
І я ўкушу,
Але не свой...



## Сланы і мухі

– Даведацца
Хачу даўно, –
Сяброўку
Запытала Ната, –
Навошта робяць
З мух сланоў?
Сланоў жа мала,
Мух – багата!

## Дзе ганарар?

Ніколі жонка
Маіх вершаў не чытае,
А толькі кпіць:
– Таксама мне пясняр!..
Калі ж пра творчасць
Зрэдку запытае,
Цікавіцца:
– А дзе ж твой ганарар?






## Ідэал

– Ты ідэал шукаў,
Дык прама
Скажы:
Прапаў дарма запал?
– Знайшоў!..
Але яна таксама
Шукае ўласны
Ідэал...

Віцебская вобласць

## Сакавіты падарунак

Лічыцца, што клубніцы – любімыя ягады амаль усіх жанчын. Але ж ніхто не будзе спрачацца, што кілаграм такога салодкага і сакавітага падарунка было б прыемна атрымаць не толькі прадстаўніцам прыгожай паловы чалавецтва. Тым больш, калі прэзента зусім не чакаеш.

Так, у ходзе спецыяльнага рэйду, праведзенага ў Расонскім раёне, інспектар дарожна-патрульнай службы ДАІ УУС Віцебскага аблвыканкама спыніў каля вёскі Юхавічы аўтамабіль «Рэно-Магнум». Унутры прычэпа ён знайшоў ажно шаснаццаць з паловай тон клубніц коштам больш за 780 мільёнаў рублёў, на якія ў вадзіцеля не знайшлося ніякіх дакументаў. Нелегальны перавозчык адразу ж вырашыў падарыць інспектару ягады, маўляў, «за вашу добрасумленную працу». Але той не прыняў прэзент, а канфіскаваў тавар разам з аўтамабілем. Зараз праводзіцца праверка.

Спадзяёмся, што інспектару за старанную працу дадуць прэмію, і ён ужо сам зробіць сабе падарунак – кілаграм духмяных клубніц (безумоўна, легальна ўвезеных).




## Дачакаецца ці не?

Дзеля кахання людзі гатовы рабіць неверагодныя рэчы. Але адна справа, напрыклад, падняцца па вадасцёкавай трубе, каб падарыць дзяўчыне букет ружаў, ці год адкладваць грошы, каб ажыццявіць мару любага. І зусім іншая – пайсці на злачынства.

Супрацоўніца віцебскага банка моцна закахалася ў дырэктара адной камерцыйнай структуры. Аднойчы даведалася, што ў яго ўзніклі цяжкасці з грашыма, і вырашыла дапамагчы. Скарыстаўшыся сваім службовым становішчам, загадала падначаленым аформіць крэдыт на любага, хоць і ведала, што той не зможа яго выплаціць.

У выніку фінансавай установе быў нанесены ўрон на суму больш за 900 тысяч долараў. А віцябчанцы давядзецца правесці за кратамі чатыры гады. Як лічыце, ці будзе чакаць яе каханы?

## Стымул павысіць кампетэнтнасць

Калі не дапамагае звычайная медыцына, людзі пачынаюць звяртацца да народных сродкаў. Яны набываюць усялякія настоі, травы, лекавыя зборы. І, як ні дзіўна, шчыра вераць рэкамендацыям прадаўцоў, якія нават адносін ніякіх не маюць да лячэбнай справы.

Адна хітрая лепельская «зёлачніца» бегала па розных выставах, прысвечаных здароваму ладу жыцця, і скупляла народныя лекі ў фірмовых крамах. Потым жа рэкламавала іх у тэматычных часопісах і перапрадавала. За перыяд з 2012 па 2015 год у яе атрымалася нелегальна зарабіць больш за 750 мільёнаў рублёў.

Лепяльчанку асудзілі па артыкуле «Незаконная прадпрымальніцкая дзейнасць» і аштрафавалі на 500 базавых велічынь. Мабыць, пасля такога яна не толькі зарэгіструецца як індывідуальны прадпрымальнік, але і сама пачне збіраць зёлкі, каб сапраўды павысіць сваю кампетэнтнасць у вобласці народнай медыцыны.



Малюнак Алега ГУЦОЛА.



Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.

**Міхаіл МАСКАЛЬЧУК**




# Варажбітка

*Гісторыйка*

Расказала мне гэту гісторыю, якая здарылася яшчэ пры польскіх панах, бабуля маёй жонкі Марыля.

У той час яе брат Ігнат быў ужо жанаты і меў двух дзяцей. Працаваў ён дзень і ноч на сваім невялічкім кавалачку зямлі, а карысці ніякай — жыў у страшэннай беднасці. Вядома, уся лепшая зямля знаходзілася ў мясцовага пана Крата і купіць яе каштавала вялікіх грошай, якіх у Ігната не было. Таму і вырашыў брат Марылі паехаць на заробкі ў Амерыку.

Вечарам яго жонка Зойка, плачучы, стала збіраць мужа ў далёкую дарогу. Нечакана ў дзверы пастукалі.

— Заходзьце, не зачынена, — прамовіў Ігнат.

На парозе з'явілася вядомая ў наваколлі варажбітка Марфа:

— Вечар добры. Кавалак сала і хлеба для мяне не знойдзеце, а то я зусім згаладалася?

Зойка моўчкі ўзяла са стала нож і праз пару хвілін вярнулася з ладным кавалкам сала і хлебам.

— Куды мужа свайго збіраеш? — запытала госця.

— На заробкі ў Амерыку, бо іншага выйсця ў нас няма. Можа, крыху грошай там заробіць, хочам у Крата зямелькі купіць і каня, — цяжка ўздыхнула Зойка.

— Нікуды ехаць не трэба, за вашу дабрыню я вам дапамагу. Толькі нікому ні слова пра гэта. Зараз я іду да Крата ў маёнтак, ён запрасіў мяне паваражыць. Вядома ж, усе паны жадаюць аднаго — доўга жыць і каб багацце ўвесь час прыбывала. Вось гэтым я і паспрабую скарыстацца, — сказала Марфа і выйшла з хаты.

Хутка пачалі адбывацца цуды...

Праз нядзелю завітаў да Ігната пан.

— Я выпадкова пачуў, што ў цябе зусім мала добрай зямлі, — пачаў гаворку Крот.

— Так, ды і тая не родзіць, — адказаў гаспадар.

— Я падумаў і вырашыў аддаць табе кавалак зямлі ад чыгункі да самай пушчы бясплатна, — працягнуў пан. — Восенню можаш забіраць, заўтра прыйдзеш у маёнтак, я падрыхтую на яе дакументы.

Праз месяц панскі конюх прывёў да Ігната ладнага чорнага жарабца. Яшчэ праз пару дзён у яго з'явілася вялікая свінаматка з трыма парасятамі. Муж і жонка не маглі нарадавацца такому нечаканаму прыбытку. Яны кожны вечар маліліся за здароўе варажбіткі Марфы. Але нікому і ніколі не расказвалі пра яе візіт.

...Прайшлі гады. Ніхто не здагадваўся, чаму Крот так добра пачаў адносіцца да Ігната. Пакуль Марыля выпадкова не сустрэла варажбітку Марфу. Тая расказала, што калі пан запытаў, колькі гадоў ён яшчэ пажыве на свеце, яна сказала:

— Усё залежыць ад таго, колькі пражыве твой парабак Ігнат.

Зразумела, што Крот прыслухаўся да слоў варажбіткі. І вымушаны быў дапамагаць брату Марылі.

Вось так Марфа наваражыла шчасце Ігнату.

*Гродзенская вобласць,*
*г. п. Вялікая Бераставіца.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА і Аляксандра БАГДАНОВІЧА.




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.

## ЗаДачная экалогія

Адшукайце на малюнку ўсе «экалагічныя правапарушэнні». Калі вы знайшлі 4-6 такіх фрагментаў, то вы чалавек, уважлівы да асяроддзя, 7 і болей — неабыякавы да экалогіі. А калі вы на шляху да дачы заедзеце ў лес і прыбярэце там смецце, то вы актыўны барацьбіт за чысціню прыроды.

# Шлях да дачы




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.







## Агнём сатыры па заганах

*Бязвоблачным ліпеньскім днём 1955 года ў горадзе Фрунзэ – сталіцы Савецкага Кыргызстана, на свет з'явіўся наш пабрацім – часопіс сатыры і гумару «Чалкан». Слова гэта калючае і пякучае, і перакладаецца яно з кіргізскай мовы няйначай як «крапіва». «Чалкан» – першае сатырычнае выданне кіргізскага народа. На чале часопіса ў першыя гады яго існавання стаяў адзін з найстарэйшых літаратараў Кіргізіі – Аалы Такамбаеў, які яшчэ ў 30-я гады шмат зрабіў для станаўлення жанру палітычнай сатыры. Абапіраючыся на традыцыі вуснай народнай творчасці, на пэўны сатырычны вопыт, назапашаны маладой кіргізскай літаратурай, арганізатары часопіса паспяхова спраўляліся з пастаўленымі задачамі. Вялікі ўплыў на станаўленне выдання аказаў старэйшына савецкай сатыры «Кракадзіл», лепшыя набыткі якога былі ўзяты на ўзбраенне кіргізскімі сатырыкамі.*

*«Добрыя пачуцці захоўваю я да сваіх сяброў, – прызнаваўся некалі сваім чытачам «Чалкан». – Да тых, хто ў нашым горным краі здабывае вугаль і пасвіць авечак, будуе дамы і робіць плаціны, выпускае станкі і вырошчвае «белае золата», лечыць людзей і вывучае навукі... Гэта ўсё мае сябры. Я радуюся, калі яны смяюцца, разглядаючы каляровыя малюнкі і чытаючы фельетон. Але ж маю я і непрыяцеляў. Мой смех іх да плачу даводзіць. Для іх у мяне іншыя словы і малюнкі – вострыя і гнеўныя, якімі я цкую нягоднікаў, выкрываю бюракратаў і чынуш, гультаёў і хуліганаў, прайдзісветаў і прыстасаванцаў. Я імкнуся сродкамі сатыры змагацца з усім, што перашкаджае нашаму руху наперад, з праявамі хцівасці, хабарніцтва, дармаедства, паклёпаў, п'янства... Супраць носьбітаў гэтых заган і накіраваны агонь маёй сатыры».*

*Сёння кіргізскі часопіс, на вялікі жаль, спыніў сваё існаванне. Але ж гэта толькі яшчэ адна падстава, каб узгадаць яго добрым слоўцам на нашых старонках. Знаёмцеся – часопіс сатыры і гумару «Чалкан»!*



**– Наш вагаўшчык цяжкаатлет, гірамі працуе!**

Малюнак Амурбэка АСАНАВА.

## Усе паляўнічыя – манюкі

*Гумарэска*

Позняя ноч. Перадапошняя ноч адыходзячага года. У юрце, якая прыляпілася да вялізнай скалы па-над цяснінай Туюк, цёпла. Тлее курай пад трыножнікам, грэецца чай у казане...

– На тым схіле гор, – разважліва гаворыць Артык, – зусім непадалёку, пасецца табун казлоў. Нядрэнна было б да навагодняга стала парачку адстрэліць...

Артык – вопытны паляўнічы, рэдка памыляецца. Але сябры ўсё ж не паверылі яму адразу, крыху паспрачаліся. А потым заціхлі, задрамалі. Не заснуў толькі самы малодшы – Мурат. Ён заўсёды захапляўся прыгодамі гор, яны прыцягвалі яго, як прыцягваюць дзяўчаты-прыгажуні хлопцаў, п'янеючы ад першых дзён вясны.

Раніцой Мурат ціха пакінуў юрту і дабраўся да грэбеня гор. Сапраўды, на схіле спакойна пасвіліся казлы. У маладога паляўнічага ажно дух заняло ад такога відовішча. У думках перастраляўшы амаль усіх тых жывёлін, Мурат подбегам кінуўся назад да юрты. Паляўнічыя хуценька падхапіліся і пачалі падымацца наверх.

І тут ім насустрач – двое незнаёмых паляўнічых. Прывіталіся.

— Дазвольце і нам разам з вамі паляваць, — папрасіў адзін з іх.

— Аб чым гаворка, — адказаў Артык. — Казлоў на ўсіх хопіць.

— А самі ўжо колькі ўпалявалі?

— Ды ўсіх чатырох, — смела сказаў Мурат.

Выраз твару ў незнаёмага раптам змяніўся.

— Ты ведаеш, хто я такі? — з пагрозай запытаў ён.

— Не, не ведаю.

— Дык вось. Накруці сабе на будучыя вусы, браканьер. Я — інспектар па гэтай вось цясніне. — Ён тут жа выняў з кішэні чырвоны білет і патрос пад носам Мурата. Потым, не спяшаючыся, схаваў дакумент і сеў на вялікі камень, разгортваючы паперу на палявой сумцы, дадаў: — Зараз мы складзём акт...

Але Мурат не разгубіўся:

— А вы ведаеце, хто я такі? — запытаў ён у сваю чаргу.

— Не, не ведаю.

— Тады накруціце на свае вусы, паважаны інспектар, што я найлепшы хлус і манюка гэтага краю. Няўжо ж вы не ведаеце, што ўсе паляўнічыя маняць?

Прысутныя засмяяліся. Усміхнуўся і суровы інспектар:

— Праўду кажучы, стрэлаў не было чуваць.

Але трэба і нам сказаць праўду: мы змянілі свой маршрут. Нас больш сталі цікавіць улары — горныя індычкі. А пра казлоў ужо не думалі. З улараў таксама смачную вячэру можна прыгатаваць.

Эх, горы, мілыя горы!

**Т. ДЖАМАНКУЛАЎ.**




**Дружны перакур**

Малюнак Асамбека ТУРУМБЕКАВА.




**— Падбярыце ключ і пішыце што заўгодна!**

Малюнак Мікалая МАСЛЮКА.

## Сатырычны бішбармак

Туке дарыў сваё сэрца кожнай дзяўчыне. Скончылася тым, што стаў бессардэчным.

* * *

— Ну як, сынок, ці добры твой новы настаўнік?

— Падманшчык! — самазадаволена адказвае дзіця.

— Чаму?

— Ды ўчора ён вучыў нас так: калі да пяці дадаць чатыры — атрымаецца дзевяць, а сёння кажа, што шэсць і тры — таксама дзевяць.

**Сабраў К. АЛІЕЎ**

*«Вожык», № 14, 1977 г.*

**Мукаметкалый ТУРСУНАЛІЕЎ**

## Логіка Чарапахі

*Байка*

Убачыўшы ў небе самалёт,
Казе Авечка мігам паказала:
— Глядзі, які здзіўляючы палёт!
О, калі б я ўвысь вось так сігала!
— І я не супраць так, як трэба,
Узняцца ўвысь і там праведаць неба, —
Каза прамовіла ў адказ
І, уздыхнуўшы цяжка, дадала:
— Я чула неяк раз,
Што неба — гэта рай, а я там не была.
А Чарапаха незнарок размову
Пачула гэтых дзвюх сяброўак
І кінулася ў смех:
— Пацеха проста вы з пацех!
Не горшая за вас я, верце, не,
А дайце крылы мне –
За птушку лепей я змагу лятаць.
А што той самалёт?! Па шчырасці сказаць,
Дык ён жа па зямлі хадзіць, як я, не ўмее!
Вядома, той
Смяяцца будзе век з яе,
Хто думку Чарапахі зразумее.

## Народная мудрасць

Шалёны сабака кусае і гаспадара.

Дурны і на радзіме ў палон трапляе.

Для маладой галінкі сагнуцца — значыць зламацца, для маладога джыгіта зняславіцца — значыць памерці.

— Калі жэняцца двое добрых — будзе шчасце, калі жэняцца добры і дрэнны — будзе правільна, калі жэняцца двое дрэнных — будзе кожны дзень вайна.

Хто вып'е гарэлкі — п'яны на вяселлі, у каго няма розуму — п'яны кожны дзень.

*«Вожык», № 14, 1977 г.*




Малюнак Джамбула ДЖУМАБАЕВА.

**— Дзякуй, дзядзечка дырэктар, за металалом! Мы прымаем вас у пачэсныя піянеры.**

## Макулінкі

Той, хто не зведаў ніколі нуды,
Тлусцее нат
Ад звычайнай вады.

Аб тым, што горны шлях цяжкі,
Вам скажа больш асёл,
Які прывык насіць ўюкі, —
А толькі не арол.

**Сабраў К. АЛІЕЎ.**



Малюнак Турсумбека КОЙЧЫЕВА.

**— Ніяк не магу ўцісну́ць у справаздачу гэты дыван!**




Вандроўнік — кітайскі дрывасек.
Весніца — грак.
Выдра — грэбень.
Гадзіннік — серпентарый.
Гарлач — оперны спявак.
Грэбля — канаістка.
Драпежнік — уцякач.
Капліца — маленькі дождж.
Лецішча — вырай.
Нізка — ліліпутка.
Смакоўніца — жанчына-самелье.

**Мікалай НАВАРЫЧ,**
*г. Мінск.*




## Пад новай шыльдай

Шумна, тлумна ў Доме быту
З раніцы і да цямна:
Тут адкрыў Сымон з Мікітам
Цэх пад шыльдай «Пі да дна».

## Пра паходжанне

«З нізоў ты, а вось я — эліта», —
Казала Масла Малаку.
З чаго эліта тая збіта,
Вядома кожнаму Гаршку...

## Пустыя каласы

На полі знойдзеш іх багата:
Стаяць прамыя, як кійкі,
Тапыраць злосна асцюкі
На тых, хто мае шмат зярнятак.

**Фёдар ЛАПАНІК,**
*г. Ляхавічы.*



Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.




Малюнак Аляксандра ПЯТРОВА.

Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА і Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

Ганна ЧАРНУШЭВІЧ




*Гісторыйка*

Зранку каля кабінета ўрача-кардыёлага сабралася вялізная чарга. Побач з дзвярыма некалькі пажылых жанчын нешта жвава абмяркоўвалі. Да іх падышоў немалады мужчына.

— Хто апошні на прыём? — запытаўся ён.

— Я, — адказала адна з пацыентак і кінула на яго позірк. — Во, Сцяпанавіч, прывітанне! Вы мяне пазналі?

— Не... — пацiснуў плячыма той.

— Я Манька Галасіха, на прадпрыемстве працавала, дзе вы кіравалі, — узялася ўзгадваць жанчына. — Няўжо не памятаеце? Мы ж з вамі некалі гулялі, спявалі, нават мілаваліся...

Мужчына пачырванеў: мабыць, прыгадаў. Кожны, хто чуў гэтую размову, заўсміхаўся. Жанчына ж зноў павярнулася да сяброўак і пачала расказваць ім пра свайго колішняга кавалера, якога не бачыла амаль трыццаць гадоў.

Толькі смех у чарзе крыху суцішыўся, як да мужчыны падышла яшчэ адная «незнаёмка».

— Сцяпанавіч, прывітанне! — павіталася яна.

— А вы хто? — ужо спалохана пацікавіўся той.

— Я Валянціна Канарыха, у бухгалтэрыі вашага прадпрыемства касіркай працавала, — патлумачыла жанчына. — Хіба не памятаеце? Кветачкі, цукерачкі, абяцанкі-цацанкі...

Тут чарга са смеху так і пакацілася!

— Што, сэрца прыхапіла? — пакпіла колішняя каханка.

Збянтэжаны мужчына прысеў на кушэтку каля сцяны і апусціў галаву. Відаць, каб яшчэ якая-небудзь «незнаёмка» не пазнала...

*Слуцкі раён,*
*в. Замосце.*






## Пяро сумненняў

Мне здаецца, што дагэтуль
Столькі не было паэтаў.
Ці не спяць і не працуюць?
Усё рыфмуюць і рыфмуюць.

Пішуць вершы ўсе наўкола
Ад Кузьмы і да Міколы.
Як майстрыцы, ткуць радкамі:
Гэты — зрэб'е, той — арнамент.

У рэдакцыях — завалы:
Колькі мецяць у Купалы!
Ды смяюцца часам куры
З тонаў той макулатуры.

Вось і я мінулым летам
Палічыў сябе паэтам
І сур'ёзна з таго часу
Зацугляць рашыў Пегаса.

На паэзію стаў хворы,
Ў друк адправіў колькі твораў.
Каб пашырыць форму, тэму,
Замахнуўся на паэму!

У свой бок крытычна гляну —
Усё як быццам без заганаў.
Толькі, як Фама вядомы,
Сумняваюся да стомы.

На вушак прыбіў падкову:
Крытык скажа свае слова
Плюс падтрымка з інтэрнэту —
Мо й запішуць у паэты.

Графаманаў-рыфмачоў
Суд чакае чытачоў.
А каб з музай парадніцца,
Трэба ў класікаў вучыцца.

**Валянцін ШВЕДАЎ,**
*г. Мінск.*



Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА і Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

## Таксама не чытаў

Знаёмы гаворыць пісьменніку:

— На жаль, нічога не магу сказаць пра вашу новую кнігу, бо яшчэ не прачытаў...

— Нічога, я таксама, — супакойвае яго аўтар.



## Лепш не кратаць

Жонка навяла парадак у паперах мужа-пісьменніка. Той абураецца:

— Ну вось, цяпер я не ведаю, дзе што мае валяецца!



## Сваё — лепшае

З размовы двух пісьменнікаў:

— Як вам мая новая кніга?

— Нядрэнная. Асабліва прадмова, якую я напісаў!



**Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*




## Не склалася…

Напэўна, не пачуць мне спеваў
З табой вясною жаўрукоў,
Бо ўчора зноў хадзіў да Евы
Каля суседчыных кустоў.

І не мані, што заблудзіўся!
Як памаўзлівы, шкодны кот,
Ты на яе даўно дзівіўся...
Вось і чашы ў свой агарод.

**Таіса РОЛІЧ,**
*Глыбоцкі раён,*
*г. п. Падсвілле.*

## У санаторыі

Як я трохі пастарэў,
Ў санаторый захацеў.
Трапіў — быццам на парад:
Добра ўсім за шэсцьдзясят.
Ды з пароды мы такія,
Што душою маладыя.
Для амурнае атакі
Можам выкінуць кульбакі
І з сястрыцай-маладзіцай
Спрытна ў танцы пакруціцца.
Хоць пасля — даўно вядома —
Будзем спіны лячыць дома,
Ды пакуль на адпачынку,
І стары дядок — мужчынка!

**Уладзімір ЛАБКО,**
*г. Слонім.*






Малюнак Ганны ДЗЮКАВАЙ і Міхася ШУЛЬП.

## Лепшы сябар і памочнік

Сельгастэхнікі ўсялякай
Ёсць цяпер, на розны густ.
Для мяне ж найлепшы сябар —
Трактар маркі «Беларус».
Ён вядомы ва ўсім свеце,
Арэ, сее, цягне груз.
Едзе, едзе па планеце
Конь сталёвы — «Беларус»!
У далёкай Аргенціне,
У Шанхаі, Анкары...
Набываюць за мяжою
«Беларусы»-трактары.
Па пяску, па полі росным
Ён ідзе — зямля дрыжыць.
Не здзіўлюся, калі ў космас
Гэты волат паляціць.
Кажуць, на планетах іншых
Хутка зацвітуць сады.
Дык чаму і «Беларусам»
Не адправіцца туды?
А калі я пастарэю
І на пенсію пайду,
Развітацца з «Беларусам»
Усё роўна не змагу.
Будзем разам вудзіць рыбу,
На лугах траву касіць.
Ў лес паедзем мы па дровы,
Каб узімку печ паліць.
Лепшы сябар і памочнік,
Неразрыўны наш саюз.
Услаўляць я не стамлюся
Цябе, волат-«Беларус»!

**Васіль СЕМЯНЮК,**
*Дзяржынскі раён,*
*в. Баравікі.*

## Гэлька і бутэлька

Захварэла баба Гэлька,
Гэтак млосна – хоць у пельку.
І не п'ецца, і не есца,
Не знаходзіць сабе месца.
Раіць шчыра ёй сяброўка:
«Можа б, доктара пазваць...»
«А ці ж ты не бачыш, Волька?
Час прыйшоў мне паміраць».
Разважае баба Гэлька:
«На той свет ды без бутэлькі?»
Узялася яна здуру
Гнаць гарэлку на хаўтуры.
Літраў з дваццаць мо нагнала
Ды надзейна прыхавала.
Зяць да чаркі быў мастак,
Каля цешчы так і сяк:
То на працы ён стаміўся,
А то з жонкай пасварыўся...
Бутля ўжо стаіць пустая –
Гэлька ўсё не памірае.
Ды як толькі прыхварэе,
Каля печы брагу грэе.
Радуецца зяць, паверце,
Не жадае цешчы смерці.
Хай сабе рыхтуецца –
Ён, між тым, частуецца.

**Ірына СЕСІЦКАЯ,**
*г. Докшыцы.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА і Міхася СТЭФАНЕНКІ.




Не было ні шыша, ды вось з'явіўся шыш з маслам.

І сухім вінам можна падмачыць рэпутацыю.

Бюро прагнозаў абяцала дождж са снегам, але вельмі туманна.

Заўзяты паклёпнік атрымаў малако за шкоднасць.

**Тамара СЕНКЕВІЧ,**
*г. Навагрудак.*

Усмешка

### Хто пакусаў?

*З натуры*

Кацярына Іванаўна яшчэ не паспела ачомацца ад сну, як у дзверы хтосьці пазваніў. У вочка кабета ўбачыла міліцыянера. Толькі яна прачыніла дзверы, як той строга запытаўся:

– Коллі дома няма?

Жанчына, у якой мужа звалі Колем, спакойна адказала:

– На дачу паехаў.

– А вы ведаеце, што ён чалавека пакусаў?

– А божачка ж ты мой! – залямантавала Кацярына Іванаўна. – Здурнеў ён, ці што?

– А чаму ж тады вы яго пускаеце без намордніка?

– Каго?

– Коллі!

Нарэшце жанчына ўцяміла, што размова ідзе пра суседскага сабаку коллі.



**Даслаў Мікалай СЦЕПУЛЁНАК,**
*г. Дзяржынск.*




# Аляксандра ЗАЗУЛІ


















# Сэлфі, рэлфі і... балота?



*Іранеска*

Малюнак Пятра КОЗІЧА.



Раней уласныя фотаздымкі змяшчаліся ў рамкі ці альбомы. Такім чынам яны захоўваліся для нашчадкаў. Аднак са з'яўленнем смартфонаў усё змянілася. Людзі ўзялі за моду самі сябе здымаць ды адразу ў сеціва выкладаць. Калі адзін чалавек на фота – гэта называецца сэлфі, два і больш – рэлфі. А белфі – гэта ўвогуле... калі пятая кропка на здымку. Вось да чаго дажылі, людцы!

Больш за ўсіх супраць такіх дзівацтваў выступаў Антон Іванавіч Цярэшка. Усе яго разумелі: тры дачкі ды жонка, і ўсе – заядлыя сэлфаманкі. Прымушаюць беднага ў сацсетках іхнія фотаздымкі «лайкаць», каментаваць, сяброў да гэтага глупства падключаць. Ды яшчэ патрабуюць перыядычна абнаўляць электронныя прылады, бо тыя выходзяць з моды. Нездарма Антон Іванавіч гэтае захапленне не любіў. Як прадчуваў, што без наступстваў яно не пройдзе.

Адным днём у гаражным кааператыве ўзняўся вэрхал: старэйшая дачка Цярэшкі, якая вось-вось збіралася замуж, утапіла новенькі бацькаў аўтамабіль у балоце. Чаму яе туды занесла, ніхто дакладна і не ведаў. Сам жа Антон Іванавіч, схапіўшыся за галаву, спачатку толькі лаяўся, памінаючы чамусьці пры гэтым тыя самыя сэлфі, а потым паказаў злапамятны фотаздымак і паведаміў саму гісторыю.

Дачка Антона Іванавіча выпрасіла ягоную іншамарку, каб з'ездзіць на прыроду і зрабіць перадшлюбныя сэлфі. Ці рэлфі? Мабыць, другое, бо паехала яна разам з Дзімкам, жаніхом сваім. За натуру абрала балота. Усе іншыя аб'екты, як выявілася, былі ўжо занятыя аматарамі сэлфі-рэлфі-бэлфі. А вось балота! Ніхто б не дадумаўся да такого крэатыву. Спачатку парачка фатаграфавалася на фоне балота, але потым ім падалося гэтага мала. Яны падагналі аўтамабіль да самай вады і пазалазілі на капот. Нявестаразумніца вырашыла ўскочыць на дах машыны. За ёй пасунуўся і кавалер, стокілаграмовы здаравяк. Адным словам, балота не вытрымала такіх да сябе здзекаў і пачало зацягваць шыкоўны аўтамабіль Цярэшкі. Горасэлфаманы ледзь паспелі саскочыць на бераг. Кінуліся тэлефанаваць бацьку. Калі той прымчаўся на месца, з балота віднеўся толькі дах новенькага аўто.

Урэшце трактар выцягнуў няшчасную машыну з багны. Цярэшка асеў на зямлю: увесь салон праз адкрытыя вокны запоўніўся тванню. І багажнік таксама, бо парачка зусім забылася яго прычыніць. Антон Іванавіч плакаў наўзрыд, як малое дзіця. Суцяшалі, хто як мог, ідэі розныя прапаноўвалі:

– Можа, узяць ды ўюноў у ім развесці? А потым сэлфі на іх фоне рабіць. За грошы. Гэта ж які будзе крэатыў! У свеце такого нідзе няма! Глядзіш, за год-другі і на новы аўтамабіль грошай назбіраеш. У цябе ж яшчэ дзве дачкі на падыходзе!

Антону Іванавічу нічога не заставалася, як клюнуць на гэтую дзёрзкую прапанову і задумацца: а чаму б і не?

**Раіса ДЗЕЙКУН,**
*г. Гомель.*






З размовы з аператарам службы падтрымкі мабільнай сувязі:

– Прабачце, да мяне чамусьці не даходзяць паведамленні...

– Засяродзьцеся і ўважліва пачытайце іх яшчэ раз.

* * *

– Мілы, падары мне кацяня! Я яго буду любіць, лашчыць, цалаваць, купаць, у ложак з сабой браць...

– Мяў!..

* * *

Заходзячы ў інтэрнэт на пяць хвілін, памятайце: каструля пачынае смажыць пасля таго, як заканчвае варыць.

* * *

Мужчына заходзіць у краму і пытаецца:

– Скажыце, ці прадаюцца ў вас баксёрскія пальчаткі?

– Не.

– А шапачка для плавання?

– Таксама не.

– А канькі?

– Мужчына, гэта вінна-гарэлачны аддзел...

– Тады мне бутэлечку беленькай.

Прадавец ідзе па гарэлку. Мужчына задумліва, сабе пад нос:

– Ну, бачыць Божанька, хацеў спортам заняцца!

* * *

На дзявятым месяцы цяжарнасці папрасіла мужа пафарбаваць пазногці на нагах. Доўга бурчэў, аднекваўся, маўляў, не мужчынская гэта справа. Я пакрыўдзілася, пайшла мыцца. Выходжу з ваннай і бачу: сядзіць, фарбуе свае пазногці і бубніць:

– Што вам, цяжарным, толькі ў галаву не цюкне!

«Вожык» – грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 5 (1532), 2016 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*

Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

В. а. галоўнага рэдактара
Ганна Аляксандраўна КІСЛУШЧАНКА.

Рэдакцыйная калегія: Анатоль АКУШЭВІЧ, Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ГІРГЕЛЬ, Тамара ДАНІЛЮК, Валянціна ДУБРОВА, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Уладзімір МАТУСЕВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ.

Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел)*, Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў)*, Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры).*

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zviazda.minsk.by.

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: vozhyk@zviazda.ru; a-vojik@yandex.ru
Тэлефоны: галоўнага рэдактара – 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага – 284-84-52, бухгалтэрыі – 287-18-81, факс – 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 – індывідуальны, 01380 – індывідуальны льготны, 748442 – ведамасны, 01381 – ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Камп'ютарная вёрстка: Дар'я КАМЕЙША
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ

Падпісана да друку 04.05.2016. Фармат 60x84 $^1/_8$. Афсетны друк. Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,51. Тыраж 1113 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект». ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.






Малюнак Алега ПАПОВА.